# БЛЁК-НОТ АГІТАТАРА

АГІТМАСАВЫ АДДЗЕЛ ЦК КП(б)Б

ПАВЫШЭНЬНЕ ЎРАДЖАЙНАСЬЦІ — ЦЭНТРАЛЬНАЯ ЗАДАЧА СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

КАСТРЫЧНІК

№ 11

ДВБ ПАРТМАССЭКТАР
1 9 3 2

## ПАВЫШЭНЬНЕ УРАДЖАЙНАСЬЦІ — ЦЭНТРАЛЬНАЯ ЗАДАЧА СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЙ ВЫТВОРЧАСЬЦІ

ДЛЯ ЗАЎВАГ



Задача барацьбы за высокі ураджай—пастаўлена XVII партконфэрэнцыяй, як цэнтральная задача ў галіне сельскагаспадарчай вытворчасьці на 1932 г. і другую пяцігодку. Падначальваньне ўсіх мерапрыемстваў па лініі сельскай гаспадаркі вырашэньню гэтай цэнтральнай задачы і мобілізацыя шырокіх мас працоўных на гэту справу—зьяўляецца рашаючай умовай для дасягненьня посьпехаў у барацьбе за высокі ўраджай.

Мы маем усе ўмовы і магчымасьці для таго, каб мець высокі ўраджай. Такіх умоў ня мела царская Расія, якая стаяла ў апошніх радох па ўраджайнасьці; такіх умоў ня мае і зараз ніводная з ка-

піталістычных краін, абмежаваных прыватнай уласнасьцю на землю, ахопленых жорсткім крызісам усёй гаспадаркі і ў тым ліку сельскай гаспадаркі.

Мы зьяўляемся сьведкамі шматлікіх фактаў агітацыі ў радзе капіталістычных краін за скарачэньне засеўных плошчаў (найбольш шырока гэта разьвіта ў Амэрыцы). Безнадзейна шукаючы выйсьця з аграрнага крызісу буржуазныя дзеячы ў якасьці рацэптаў прапануюць скарачаць засеўныя плошчы, палохаюцца высокіх ураджаяў, ужываюць нават збожжа для апалу паравозаў—для таго каб затрымаць разарэньне фэрмэраў і захаваць на больш-менш высокім узроўні цэны на сельскагаспадарчыя продукты.

### СССР—краіна самага буйнага земляробства ў сьвеце

Зусім адваротнае становішча ў нас—у краіне, пасьпяхова будуючай соцыялізм.

Комуністычная партыя пад кіраўніцтвам Ленінскага ЦК, на чале з правадыром партыі т. Сталіным—заваявала перамогі сусьветна-гіста-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

рычнага значэньня. Партыя нязухільна, у жорсткай барацьбе з кулацтвам, у рашучай барацьбе з контр-рэволюцыйным трацкізмам, з правым і «левым» опортунізмам мобілізуючы працоўныя масы на ліквідацыю капіталістычных элемэнтаў, рашуча змагаючыся з клясававарожай агентурай у сваіх радох на аснове ўздыму творчай актыўнасьці працоўных—пасьпяхова будуе ў краіне бясклясавае соцыялістычнае грамадзтва.

Звыш 60 процантаў бядняцка-серадняцкіх гаспадарак па Саюзу аб'ядналіся ў колгасы. Дзякуючы посьпехам колектывізацыі колгаснае сялянства ў асноўных сельскагаспадарчых раёнах Саюзу аб'яднала 80—90 процантаў зямлі, якая да гэтага знаходзілася ў аднаасобным карыстаньні, што значна абмяжоўвала раней магчымасьць павышэньня ўраджайнасьці.

Цяпер дробныя палоскі аднаасобных гаспадарак з іх далёказямельлем, цераспалосіцай, межамі, пастаяннымі перадзеламі—аб'яднаны ў буйныя колгасныя масывы, дзе ёсьць сапраўдная магчымасьць у вялізарных разьмерах нала-

**ДЛЯ ЗАЎВАГ**

дзіць і шырока разгарнуць справу барацьбы за высокі ўраджай на аснове ўкараненьня агротэхнікі ва ўсе процэсы сельскагаспадарчай вытворчасьці.

Савецкі саюз, на аснове посьпехаў у соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, **стаў краінай самага буйнага земляробства ў сьвеце і канчаткова зацьвердзіўся на новым соцыялістычным шляху.**

У рашучай барацьбе з правымі опортуністамі мы вырашылі гістарычнай важнасьці задачу стварэньня саўгасаў, якія ўжо даюць краіне вялікую колькасьць таварнага збожжа. Колькасьць саўгасаў па БССР з часу XIII зьезду КП(б)Б (май 1930 г.) вырасла на 50 процантаў.

Дасягнуты вялізарнейшыя посьпехі, якія ня маюць ніякага параўнаньня з мінулым, у галіне машынізацыі і тэхнічнага пераўзбраеньня сельскай гаспадаркі. Колькасьць МТС у 1932 годзе складае больш як тры тысячы. Сельская гаспадарка атрымала больш як сто тысяч трактароў. У перспектыве поўная мэханізацыя ўсіх сельскагаспадарчых работ.

Асабліва важна адзначыць рост

ДЛЯ ЗАЎВАГ

машынізацыі сельскай гаспадаркі БССР, якая (гаспадарка) была асабліва адсталай у мінулым. Гэта рост паводле даных Дзяржпляну БССР вызначаецца ў наступных лічбах: калі ў 1928 г. сельскагаспадарчых машын і інвэнтару прыпадала на 1 га засеўнай плошчы на 5,6 руб., дык у 1929 г. гэта лічба паднялася да 9 руб., у 1930 г. да 10,3 руб., у 1931 г. да 14,6 руб., а ў 1932 г. гэта лічба пры поўнай рэалізацыі намечанага пляну забесьпячэньня сельскай гаспадаркі машынамі дойдзе да 24 руб. на га засеўнай плошчы.

Паступленьне машын у сельскую гаспадарку за апошні пэрыод характэрызуецца наступнымі лічбамі:

| | |
|---|---|
| 1929 год . . | на 5.400 тыс. руб. |
| 1930 год . . | на 7.726 тыс. руб. |
| 1931 год . . | на 17072 тыс. руб. |

Асабліва вялізныя посьпехі дасягнуты ў адносінах трактарызацыі сельскай гаспадаркі. Так, калі ў 1930 г. увесь трактарны парк складаў 8 тыс. НР [1]), дык у 1931 г. гэта лічба паднялася да 26 тыс. НР, пля-

1) НР—конскіх сіл.

нам на 1932 г. намечана гэту лічбу падняць да 70 тыс. НР. З шасьці машына-трактарных станцый у 1930 г., у 1931 годзе працавала 33, у 1932 г. у веснавую пасеўную кампанію працавала 57 МТС, а да канца году агульная колькасьць МТС будзе даведзена да 100.

Магутны рост буйнай прамысловасьці забясьпечвае усямерную вытворчую дапамогу колгаснаму сялянству у разьвіцьці сельскай гаспадаркі.

Такім чынам магчымасьці шпаркага, у вялізарных разьмерах, павышэньня ўраджайнасьці, у нас ёсьць. Перавагі буйнай соцыялістычнай гаспадаркі намі добра выкарыстаны для расшырэньня засеўных плошчаў, што складае ў параўнаньні з даваенным часам—30 млн. гэктараў па СССР.

Аднак перавагі саўгасаў і колгасаў зусім недастаткова выкарыстаны намі для рашучага павышэньня ўраджайнасьці соцыялістычных палёў, для ліквідацыі у гэтай галіне спадчыны царызму. **Па ўраджайнасьці мы далёка адсталі ад перадавых капіталістычных краін.** Мы дасягнулі на аснове колектывізацыі і

расшырэньня машыннай базы найбольшага расшырэньня засеўных плошчаў—выканаўшы гэтым самым задачу першай стадыі ўздыму сельскай гаспадаркі. Засеўныя плошчы зараз у нас расшыраны дастаткова.



### Ад росту гаспадаркі ўшыркі--да барацьбы за падвышэньне ўраджайнасьці

Вось чаму СНК СССР і ЦК УсеКП(б) у сваёй пастанове ад 29-га верасьня «Аб мерапрыемствах па падвышэньні ўраджайнасьці», концэнтруючы ўвагу партыйных і савецкіх організацый на задачах падвышэньня ўраджайнасьці, указваюць наступнае:

> «Далейшае расшырэньне засеўных плошчаў па тэхнічных і абсыпных культурах, якія зьяўляюцца найбольш працаёмкімі, выклікала-б празьмерную перагрузку рабочай сілы і цягі, пагоршаньне якасьці апрацоўкі і падзеньне ўраджайнасьці. Гэта значыць, што надышоў час, калі ад **росту гаспадаркі ўшыркі,** шля-

хам павялічэньня засеўных плошчаў, неабходна **павярнуць** да барацьбы за лепшую апрацоўку зямлі, да барацьбы за **павышэньне ўраджайнасьці,** як галоўнай і цэнтральнай задачы ў галіне сельскай гаспадаркі на данай стадыі разьвіцьця. Перавагі буйнай соцыялістычнай гаспадаркі даюць поўную магчымасьць павысіць ураджайнасьць у саўгасах і колгасах у разьмерах недаступных для аднаасобнай гаспадаркі».

У сувязі з гэтым СНК і ЦК вынесьлі пастанову **аб прыпыненьні** далейшага расшырэньня засеўных плошчаў тэхнічных і абсыпных культур па пляну 1933 г. Прызнана мэтазгодным расшыраць плошчу толькі па збожжавых культурах (галоўным чынам па пшаніцы, аўсу, ячменю).

Указаная пастанова СНК і ЦК зьяўляецца гістарычнай. Яна рашуча ставіць пытаньне аб тым, каб усе арганізацыі ўзяліся па сапраўднаму за выкананьне мерапрыемстваў накіраваных на падвышэньне ўра-

джайнасьці. СНК і ЦК прама ўказваюць на тое, каб:



> «Пераключыць работу ўсіх партыйна - савецкіх, комсамольскіх і гаспадарчых арганізацый, працуючых у галіне сельскай гаспадаркі—у напрамку **павышэньня ўраджайнасьці** па ўсіх бяз выключэньня культурах, як цэнтральнай задачы разьвіцьця сельскай гаспадаркі ў даны момант».

Перавагі буйнай соцыялістычнай гаспадаркі ствараюць поўную магчымасьць для шырокага ўкараненьня ў сельскую гаспадарку агратэхнікі і на гэтай аснове для павышэньня у нябачаных да гэтага часу, разьмерах ураджайнасьці саўгасных і колгасных палёў. За выкананьне гэтай цэнтральнай задачы сельскай гаспадаркі — неабходна ўзяцца ўсім партыйным організацыям з усёй бальшавіцкай рашучасьцю і настойлівасьцю. Неабходна дабіцца рашучага **павароту** у кіраўніцтве саўгаснай і колгаснай вытворчасьцю—павароту да барацьбы за павышэньне ўраджайнасьці.

Трэба цьвёрда памятаць тое, што ўказаньне т. Сталіна «Тэхніка ў пэрыод рэконструкцыі рашае ўсё»— мае адносіны ня толькі для нашай прамысловасьці. Яно ў такой-жа меры адносіцца і да сельскае гаспадаркі. Гэта ўказаньне для сельскай гаспадаркі азначае, што задача заключаецца ня толькі ў тым, каб навучыцца ўладаць сельскагаспадарчымі машынамі, але і аўладаць і ўкараніць **агротэхніку,** умець выкарыстаць і прымяняць у сельскай гаспадарчай вытворчасьці ўсе сучасныя дасягненьні агрономічнай навукі.

### Ліквідаваць ігнараваньне агротэхнікі

Асноўнай прычынай таго, што мы маем нізкую ўраджайнасьць нашых палёў, зьяўляецца недаацэнка агротэхнікі ў вялікай колькасьці саўгасаў і колгасаў.

Вопыт веснавой пасеўнай кампаніі гэтага году асабліва яскрава сьведчыць аб тым, што факты ігнараваньня агротэхнікай зьяўляюцца шырока распаўсюджаным зьявішчам. Па гэтай прычыне мы маем зусім недастатковыя вынікі ў галіне



ДЛЯ ЗАЎВАГ

ўраджайнасьці. Вельмі часта ігнаруюцца самыя прасьцейшыя агранамічныя мерапрыемствы, для ажыцьцяўленьня якіх не патрабуецца асабліва вялікіх сіл і сродкаў. Можна сьмела сказаць, **што на мерапрыемствы па павышэньні ўраджайнасьці да гэтага часу зьвяртаецца зусім недастаткова ўвагі.**

Між тым, ад невыкананьня самых прасьцейшых агранамічных мерапрыемстваў у сельскай гаспадарцы мы маем надзвычай вялікія страты, якія вымяраюцца дзесяткамі мільёнаў рублёў.

Прывядзем некалькі прыкладаў.

Як вядома адзін з асноўных мерапрыемстваў у барацьбе за ураджай—гэта сваечасовасьць сяўбы. Мы нясем вялікія страты ад таго, што часта спазьняемся з сяўбой.

Напрыклад: паводле даных навукова-дасьледчых устаноў (на аснове пяцігадовых досьледаў) мы ад таго, што спазьняемся з пасевам ільну не дабіраем прыкладна 25 проц. ураджаю. Гэта значыць мы трацім тысячы цэнтнераў насеньня і валакна.

Па даных пяцігадовых досьледаў Бежыцкага дасьледчага поля Цімі-

разеўскай Акадэміі, Ржэўскага дасьледчага поля, Заходняй дасьледчай станцыі і інш., калі ўзяць раньні пасеў ільну за 100, дык сярэдні і позьні пасеў дае 80 проц., а звышпозьні 60 проц. ураджаю. Усім добра вядома, што значная частка саўгасаў і колгасаў лён у гэтым годзе сеяла надзвычай позна.

Такое прасьцейшае мерапрыемства, як зяблівае ворыва, дае падвышэньне ўраджайнасьці ільну на 20—30 проц., або, напрыклад, аднаразовае поліва ільну павышае ўраджайнасьць на 30—35 проц.

Прывядзем яшчэ некалькі прыкладаў: на павышэньне ўраджайнасьці вельмі спрыяючы ўплыў аказвае асеньняя сяўба і зябліва. «Правда» у перадавым артыкуле ад 24 жніўня паведамляе: вопыт паказвае, што добраякасная і сваечасовая асеньняя сяўба дае больш павышаны ўраджай, чым яравая сяўба. У 1929 г. ураджай азімай пшаніцы складаў з га 7,91 цэнтнера, а яравой—5,91 цэнтнера. У 1930 г. азімы пасеў—10,58 цэнтнера і яравы—7,32 цэнтнера.

Наколькі важным гаспадарчым мерапрыемствам зьяўляецца зяблі-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ва, можа яскравым прыкладам служыць вопыт Сярэдня-Волскага краю. У краі ў мінулым годзе быў значны неўражай. Гэта значна ўскладняла правядзеньне сяўбы ў гэтым годзе. Аднак сваечасовае правядзеньне ворыва пад зяб стварыла магчымасьць пасьпяхова правесьці веснавую сяўбу ў краі і нават лепш, чым у тых раёнах, дзе становішча з ураджаем было значна лепшае.

Адным з карэнных мерапрыемстваў па падвышэньні ўраджайнасьці зьяўляецца—ўгнаеньне. Між тым у радзе раёнаў існуе прамая недаацэнка і ігнараваньне значэньня ўгнаеньня, у прыватнасьці, угнаеньня мінэральнага. **У часе веснавой сяўбы 1932 году былі такія факты, калі мінэральнае ўгнаеньне ляжала на чыгуначных станцыях нескарыстаным, або згружалася на адкрытых мясцох і з гэтай прычыны псавалася.** Неабходна арганізаваць справу так, каб з падобнымі фактамі вялася самая рашучая і бязьлітасная барацьба.

Возьмем, напрыклад, такое шырока даступнае ўгнаеньне, як попел. Пры дастатковым жаданьні і ўменьні можна арганізаваць шырокі збор



ДЛЯ ЗАЎВАГ

попелу для павышэньня ўраджайнасьці саўгасных і колгасных палёў. Попел пры ўжываньні, як угнаеньня, пад бульбу, павышае ўраджайнасьць да 20 проц. Адсюль відаць, што мы маем магчымасьць, арганізаваўшы правядзеньне такога звычайнага і прасьцейшага мерапрыемства, як збор попелу—дабіцца павышэньня ўраджайнасьці на 20 процантаў.

Ва ўмовах БССР мы маем магчымасьць шырока ўжываць для ўгнаеньня торф у выглядзе праветранай масы. Ужываньне торфу павялічвае ўраджайнасьць бульбы на 17—20 процантаў. Асноўным угнаеньнем пад бульбу зьяўляецца гной, а між тым компаставаны і падсьцілачны торф зьяўляецца ня горшым па сваёй эфэктыўнасьці чым гной, вельмі-ж часта ён дае і лепшыя вынікі.

У заключэньне прывядзем яшчэ адзін прыклад, які яскрава сьведчыць аб вялікіх стратах пры незахоўваньні самых прасьцейшых правіл у с.-г. вытворчасьці і невыкананьні самых даступных мерапрыемстваў. Проф. Елоўпацьеўскі ў сваёй рабоце «Молочная произво-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

дительность коров» (выданьне 1932 г.) устанаўлівае наступнае:

«Грубае абыходжаньне з каровай можа панізіць удой на 30—40 процантаў.

Несваечасовай злучкай можна панізіць гадавы удой на 16—30 процантаў.

Халодны скотны двор паніжае ўдой да 20 процантаў.

Паеньне кароў халоднай вадой можа зьнізіць удой да 20 проц., і наадварот:

кармленьне па нормах павялічвае ўдой на 25—60 проц. пры аднэй і тэй-жа колькасьці кармоў.

Адно палепшаньне якасьці пашы, без павялічэньня яе плошчы, здольна павысіць удой на 50 проц.

Адным толькі правільным вырасьліваньнем маладняка ў межах пароды можна павялічыць удой на 10—13 процантаў».

Прыведзеныя прыклады з усёй відавочнасьцю сьведчаць аб тым, якія вялізарныя страты ў галіне сельскагаспадарчай вытворчасьці нясе краіна толькі ад ігнараваньня і незахаваньня самых звычайных і прасьцейшых агрономічных мерапрыемстваў, і якія магчымасьці мы

маем для таго, каб значна ўзьняць ураджайнасьць пры ўжываньні толькі прасьцейшых мерапрыемстваў.

Зараз на аснове пастановы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР ажыцьцяўляецца рад карэнных мерапрыемстваў па лініі павышэньня ўраджайнасьці. Трэба за ажыцьцяўленьне гэтых мерапрыемстваў узяцца з усёй бальшавіцкай рашучасьцю, трэба рашуча змагацца з фактамі ігнараваньня і недаацэнкі агротэхнікі, і ў прыватнасьці прасьцейшых мерапрыемстваў, разглядаючы недаацэнку барацьбы за павышэньне ўраджайнасьці як праяўленьне опортунізму, якая грае на руку клясаваму ворагу.

## Аб асноўных мерапрыемствах па павышэньні ураджайнасьці

Спынімся на асноўных мерапрыемствах па падвышэньні ўраджайнасьці.

1. СНК СССР і ЦК УсеКП(б) ад 29 верасьня прынялі наступную пастанову:

«Даручыць Наркамзему СССР у працягу 1933 году ўвесьці

ва ўсіх саўгасах і колгасах **севаабарот,** як адзін з лепшых сродкаў павышэньня ўраджайнасьці, з тым аднак, каб увядзеньне севаабароту было зьвязана з адпаведным расшырэньнем у пэўных абласьцях і краёх плошчаў пад збожжавымі, каласавымі культурамі».

Пытаньне аб устанаўленьні правільнага севабароту зьяўляецца адным з важнейшых у сыстэме мерапрыемстваў па падвышэньні ураджайнасьці і таму на гэту справу павінна быць зьвернута сур'ёзная ўвага.

Нам неабходна ўвесьці такі севаабарот, які-б поўнасьцю забясьпечваў выкананьне народна-гаспадарчага пляну і ўсіх заданьняў дзяржавы, прад'яўляемых сельскай гаспадарцы, які-б забясьпечваў найбольш эфэктыўнае скарыстаньне рабочай сілы і ўсіх сродкаў вытворчасьці ў саўгасах і колгасах.

Устанаўленьне севаабаротаў павінна быць зьвязана і адпавядаць задачам спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі і падвышэньню ўра-

джайнасьці, павінна быць падпарадкавана асноўным вядучым культурам, г. зн. ва ўмовах БССР тэхнічнымі культурамі (лён, канаплі) і караньклубняплодам.

2. Важнейшым мерапрыемствам па павышэньні ўраджайнасьці зьяўляюцца **пасевы сартавым насеньнем.**

СНК СССР і ЦК УсеКП(б) у сваёй пастанове абавязалі давесьці сартавы фонд збожжавых культур да 100 млн. пудоў, даручыўшы Наркамзему ўстанавіць насеннае раёнаваньне і распрацаваць мерапрыемствы па пераходу на пасеў чыстасартовым насеньнем па культурах і раёнах.

Нам неабходна дабіцца таго, каб пасевы ўтвараліся выключна чыстасартовым насеньнем і пільна сачыць за тым, каб чыстасартовае насеньне не расходавалася на спажывецкія патрэбы.

Вялікае значэньне для палепшаньня сартоў насеньня набывае разгортваньне адпаведнай дасьледчай работы па адбору высокаякасных сартоў насеньня, шырока распаўсюджваючы наяўныя лепшыя сарты.

Усебеларускі агра-зоотэхнічны зьезд, які намеціў рад важнейшых мерапрыемстваў у галіне падвышэньня ўраджайнасьці, паміж астатнімі мерапрыемствамі прызнаў неабходным устанавіць сортаўзнаўленьне для жыта, пшаніцы, грэчкі праз кожныя пяць год, для аўса, ячменя, лёну і канапель праз 7 год і бульбы праз 6-7 год. Гэтае мерапрыемства зьяўляецца адным з важнейшых для падвышэньня ўраджайнасьці.

Апроч усіх гэтых мерапрыемстваў вялікае значэньне набывае ўстанаўленьне абавязковай ачысткі і пратручваньня насеньня перад пасевам. **Трэба абавязкова дабіцца таго, каб ніводзін гэктар не засяваўся непратручаным і неачышчаным насеньнем.** Гэта прасьцейшае і шырока-даступнае мерапрыемства спрыяе павышэньню ўраджайнасьці і неабходна рашуча змагацца з яго ігнараваньнем і недаацэнкай.

3. Пасьпяховая барацьба за павышэньне ўраджайнасьці патрабуе ўстанаўленьня **лепшай якасьці апрацоўкі глебы.** Між тым на гэту справу не зьвяртаецца вельмі часта адпаведнай увагі і таму ступень ура-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

джайнасьці прымушае жадаць шмат лепшага.

Трэба змагацца за тое, каб зяблевае ворыва прымянялася абавязкова поўнасьцю і каб яравыя культуры засяваліся па зяблівс, неабходна ні ў якім разе не дапушчаць агрэхаў пры ворыве, дабіцца абавязкова сваечасовай прaполкі пасеваў. Усе мерапрыемствы па лепшай апрацоўцы глебы—ёсьць састаўная і важнейшая частка праграмы барацьбы за высокі ўраджай колгасных і саўгасных палёў.

4. Адным з лепшых сродкаў павышэньня ўраджайнасьці зьяўляецца **мэханізацыя процэсаў сельскагаспадарчай вытворчасьці.** Вышэй прыводзіліся лічбы аб значным росьце машынаўзброенасьці сельскай гаспадаркі. На гэтай аснове пры далейшым бязупынным росьце машынізацыі сельскай гаспадаркі—мы маем поўную магчымасьць дабіцца значнага павялічэньня ўраджайнасьці.

СНК і ЦК УсеКП(б) даручылі Наркомзему і Наркомцяжпрому спэцыяльна распрацаваць конкрэтныя прапановы аб вырабе да сэзону 1933 г. неабходнай колькасьці



ДЛЯ ЗАЎВАГ

машын для мэханізацыі тэхнічных і абсыпных культур.

Аднак у нас яшчэ далёка ня ўсё пастаўлена добра у галіне поўнага асваеньня сельскагаспадарчых машын. Існуючыя машыны вельмі часта працуюць ня з поўнай нагрузкай, або даюць зусім слабую эфэктыўнасьць з тае прычыны, што не падрыхтаваны адпаведныя кадры з дастатковым узроўнем кваліфікацыі. Вельмі часта існуюць барбарскія і нядбайныя адносіны да машыны і таму здараюцца частыя паломкі і прастоі. З усімі гэтымі зьявішчамі трэба весьці самую рашучую барацьбу, дабіваючыся падвышэньня кваліфікацыі працуючых на машынах, устанаўленьня самых беражлівых адносін да машыны з тым, каб машына ў сельскай гаспадарцы была выкарыстана поўнасьцю. Неабходна больш шырока паставіць справу аўладаньня тэхнікай с.-г. машын колгасьнікамі і рабочымі саўгасаў, стварыўшы для гэтае мэты адпаведныя курсы, гурткі і бібліотэкі.

5. Выключную важнасьць для павышэньня ўраджайнасьці мае павялічэньне ўгнаеньня. СНК і ЦК аба-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

вязалі Наркомзем і Наркомцяжпром распрацаваць прапановы аб узмацненьні вырабу **хімічных** угнаеньняў.

Задача заключаецца ў тым, каб дабіцца шырокага ўкараненьня мясцовых відаў угнаеньня (торф, вапна, попел і інш.), дабіцца правільнага ўжываньня мінэральнага ўгнаеньня, вышукваньня новых відаў угнаеньня і найбольш поўнага яго выкарыстаньня.

6. У справе падвышэньня ўраджайнасьці выключнае значэньне набывае своечасовае правядзеньне сяўбы, г. зн. **найбольш раньняя сяўба.** На вопыце вясновай сяўбы мы бачылі, наколькі вялікую шкоду для сельскай гаспадаркі аказваюць старадзедаўскія традыцыі—абавязкова сеяць тыя ці іншыя культуры пасьля адпаведных рэлігійных сьвят (напрыклад, грэчку пасьля «духава дня»). Вопыт навукова-дасьледчых с.-г. устаноў і нарэшце ўжо масавы вопыт саўгасаў і колгасаў даўным даўно абвергнуў ўсю нікчэмнасьць старадзедаўскіх традыцый.

Аднак у радзе месц гэтыя традыцыі сустракаюцца ня толькі сярод

ДЛЯ ЗАЎВАГ

аднаасобных сялян і колгасьнікаў, але нават і кіраўнікоў саўгасаў і колгасаў. З гэтымі шкоднымі традыцыямі неабходна рашуча змагацца, дабіваючыся таго, каб сяўба праводзілася ў найбольш раньнія тэрміны.

Самыя высокія ўраджаі, як правіла, даюць самыя раньнія ўсходы. Гэта ўжо дастаткова даказана на вопыце. Шматлікімі работамі сельскагаспадарчых вопытных станцый даведзена, што кожны дзень спазьненьня з сяўбой азначае страту для Савецкага саюзу 830 тыс. тон збожжа.

У радзе абласьцей Савецкага саюзу і нават БССР рабіўся вопыт пасеву некаторых яравых культур на зіму. Вынікі такога вопыту аказаліся добрымі. Гэты новы пачын у сельскай гаспадарцы адкрывае надзвычай бліскучыя пэрспектывы.

Пасеў на зіму дае магчымасьць часткова разгрузіць веснавую пасеўную кампанію, перанесьці частку работ на глыбокую восень перад самымі замаразкамі, калі ў гаспадарцы ёсьць большая частка свабодных рабочых рук, цягла і машын. Пасеў на зіму спрыяе лепшай

барацьбе з пустазельлем, бо раньнія ўсходы выходзяць больш моцнымі. Такім чынам азімізацыя мае рад важнейшых пераваг.

Неабходна дасканальна праверыць вопыт пасеву яравых культур на зіму ва ўмовах БССР і дасканальна вывучыць, якія культуры лепш сеяць, у якія месяцы і т. д. Такія мерапрыемствы павінны правесьці нашы с.-г. дасьледчыя станцыі і нават паасобныя саўгасы і колгасы, шырока папулярызуючы вынікі сваіх досьледаў.

7. Павышэньне ўраджайнасьці немагчыма бяз значнага **пашырэньня агротэхнічнай прапаганды** сярод шырокіх колгасных мас, без рашучага падвышэньня ў гэтай справе ролі с.-г. спэцыялістаў. Аўладаньне агро-тэхнічнымі ведамі павінна быць абавязкам кожнага вясковага працаўніка, кожнага комуніста і комсамольца. **«Бальшавікі вёскі павінны аўладаць агротэхнікай»— вось лёзунг, за ажыцьцяўленьне якога неабходна ўзяцца зараз-жа з усёй бальшавіцкай настойлівасьцю і рашучасьцю.**

Вось чаму ЦК УсеКП(б), надаючы пытаньню аўладаньня агротэхнікай

партыйным актывам вялікае значэньне, вынес спэцыяльную пастанову аб рэорганізацыі усіх комвузаў у вышэйшыя сельскагаспадарчыя школы. Гэта зроблена для таго, каб партыйны актыў, рыхтуемы для работы ў вёсцы, апроч палітычнай падрыхтоўкі атрымліваў спэцыяльную падрыхтоўку ў галіне агротэхнікі.

Агротэхнічную прапаганду зараз неабходна паставіць у якасьці аднэй з важнейшых задач вясковай партыйнай арганізацыі. Усебеларускі агро-заатэхнічны зьезд намеціў па гэтай лініі рад конкрэтных мерапрыемстваў якія выконваюцца да гэтага часу зусім недастаткова.

Да ліку мерапрыемстваў, намечаных зьездам і патрабуючых бязумоўнага выкананьня, адносяцца такія мерапрыемствы, як організацыя масавых агрокурсаў, а таксама гурткоў па вывучэньні агрозоотэхнікі ў кожным саўгасе і колгасе. Неабходна такія гурткі ў больш буйных саўгасах і колгасах ператварыць у сталыя вячэрнія школы.

Аднэй з форм агротэхнічнай падрыхтоўкі кіраўнікоў сельскагаспадарчай вытворчасьці і колгаснага

актыву павінна зьявіцца завочнае навучаньне. Гэта дае магчымасьць без адрыву ад непасрэднай работы на вытворчасьці працаваць над папаўненьнем сваіх ведаў.

Аднэй з каштоўных форм масавай агротэхнічнай пропаганды зьяўляецца правядзеньне зьлётаў ударнікаў-колгасьнікаў і рабочых саўгасаў. На гэтых зьлётах неабходна наладзіць шырокі абмен вопытам работы, ставіць папулярныя даклады аграномаў і інш. с.-г. спэцыялістаў.

8. У наладжваньні агротэхнічнай прапаганды выключную ролю адыгрывае работа навукова-дасьледчых установ і спэцыялістаў

Нам неабходна дабіцца таго, каб навукова-дасьледчыя ўстановы рашуча перабудавалі сваю работу. Іх задача—шчыльней зьвязацца з саўгаснай і колгаснай вытворчасьцю, лепш зьвязаць сваю работу з конкрэтнымі задачамі саўгасаў і колгасаў, хутчэй перанасіць розныя дасягненьні навукі ў сельскай гаспадарцы на саўгасныя і колгасныя палі.

Задача навукова - дасьледчых установ—памагчы колгасам і саў-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

гасам асвоіць перадавую тэхніку с.-г. вытворчасьці, падпарадкаваць сваю работу практычным задачам соцыялістычнага будаўніцтва. Дасягненьні навуковых устаноў павінны найбольш хутка ўкараняцца ў саўгасную і колгасную вытворчасьць і рабіцца здабыткам мільёнаў колгасьнікаў.

Апроч таго навукова-дасьледчыя ўстановы, у прыватнасьці саўгасны і колгасны інстытуты, павінны значна ўзмацніць свой удзел у пашырэньні агротэхнічнай прапаганды, наладзіць выданьне папулярнай навукова-тэхнічнай агра-літаратуры, плякатаў, лёзунгаў, дапамагчы укомплектаваць курсы адпаведным выкладчыцкім складам і т. д.

Задача с.-г. спэцыялістаў—прыняць больш актыўны ўдзел у агротэхнічнай пропагандзе і рашуча перабудаваць сваю работу ў такім напрамку, каб больш часу аддаваць непасрэдна вытворчасьці, перанёсшы цэнтр цяжару работы непасрэдна ў нізавое зьвяно (брыгада, вытворчы вучастак).

Трэба карэнным чынам зьмяніць становішча агранома на вёсцы: разразгрузіць агранома ад лішняй кан-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

цэлярскай работы, прыняць меры да палепшаньня яго матэрыяльна-бытавых умоў і т. д. **Неабходна каб аграном быў актыўным удзельнікам ва ўсім вытворча-тэхнічным кіраўніцтве саўгасамі і колгасамі, каб ён стаяў у першых радох барацьбітоў за павышэньне ўраджайнасьці.**

Неабходна арганізаваць справу так, каб кожны спэцыяліст ня менш 15 гадзін у месяц адводзіў для работы ў агротэхнічных гуртках і школах. Гэты мінімум устаноўлен Усебеларускім агрозоотэхнічным зьездам і неабходна, каб ён быў поўнасьцю выканан. Трэба таксама для ўдзелу ў рабоце агрозоотэхнічных гурткоў і школ шырока прыцягнуць настаўнікаў.

9. Вырашэньне задач павышэньня ўраджайнасьці, г. зн. сапраўднага павароту да падвышэньня **якасьці** сельскагаспадарчай вытворчасьці, неразрыўна зьвязана і поўнасьцю ўключае ў сябе задачу далейшага **ўмацаваньня соцыялістычнай жывёлагадоўлі.**

На гэтым вучастку, як і на астатніх вучастках сельскай гаспадаркі, трэба галоўную ўвагу накіроўваць



ДЛЯ ЗАЎВАГ

на **палепшаньне якасьці,** якая да гэтага часу стаіць зусім на недастатковым узроўні.

Мерапрыемствы па лініі ўмацаваньня і палепшаньня соцыялістычнай жывёлагадоўлі павінны нам забясьпечыць умацаваньне колгасных жывёлагадоўчых фэрм, стварэньне ўстойлівай кармавой базы, падвышэньне продукцыйнасьці жывёлы, ліквідацыю ялавасьці, эпізоотыі, устанаўленьне догляду за жывёлай у адпаведнасьці з санітарнымі правіламі і г. д.

Мы маем усе ўмовы для таго, каб поўнасьцю дасягнуць ва ўсіх колгасах і саўгасах такіх паказчыкаў, якія мелі перадавыя саўгасы і колгасы БССР ужо ў 1931 г. Гэтыя паказчыкі наступныя:

Па удоі саўгас «Каралёва»—2600 літраў, саўгас «Рачкавічы» — 2000 літраў і колгасы «Леніна» — Пухавіцкага раёну — 800 літраў, «Чырвоны Сьцяг» Койданаўскага раёну — 1840 літраў, саўгас імя Карла Маркса Слуцкага раёну—1790 літраў; па захаваньні маладняка буйнай рагатай жывёлы, — саўгас «Рудакова» — 100 проц., саўгас «Натальеўск» — 90,6 проц.; па за-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

хаваньні маладняка сьвіней — саўгас «Цяцерына» — 13,5 проц. адыходу і саўгас «Негарэлае» — 14,2 проц. адыходу.

Прыведзеныя прыклады з усёй відавочнасьцю ўказваюць на тое, што там, дзе партыйныя арганізацыі па сапраўднаму ўзяліся за павышэньне продукцыйнасьці жывёлагадоўлі, за павышэньне ўраджайнасьці, там яны дасягнулі такіх вынікаў, па якіх могуць раўняцца астатнія саўгасы і колгасы. Організаваўшы па-бальшавіцку барацьбу за якасьць сельскагаспадарчай вытворчасьці, мы можам дасягнуць яшчэ большых вынікаў і паказчыкаў, дасягнутых перадавымі саўгасамі і колгасамі.

10. Партыя і ўрад намецілі рад карэнных мерапрыемстваў па **якаснаму ўздыму колгаснай вытворчасьці.** Прынят рад важнейшых палітычных пастаноў, якія прадстаўляюць сабою разгорнутую програму барацьбы партыйных, савецкіх організацый і ўсёй грамадзкасьці за далейшае ўмацаваньне колгаснай вытворчасьці, за ўздым яе якасьці.

Да ліку такіх важнейшых дакумантаў адносіцца пастанова ЦВК і

СНК СССР **«Аб стварэньні ўстойлівага землякарыстаньня колгасаў».**

Зусім ясна, што бесьперапынныя перадзелы колгасных зямель, розныя іх «разбуйненьні і ўзбуйненьні» выклікаюць няўпэўненасьць колгасьнікаў у граніцах землякарыстаньня і таму зьніжаюць іх зацікаўленасьць у лепшай апрацоўцы зямлі.

Такія факты, распаўсюджаныя ў радзе раёнаў, сьведчаць аб тым, што ня ўсе работнікі зразумелі неабходнасьць асноўную ўвагу канцэнтраваць цяпер на палепшаньні якасьці апрацоўкі глебы, на палепшаньні якасьці колгаснай вытворчасьці.

Пастанова ўраду падкрэсьлівае, што цяпер асноўная задача заключаецца ў тым, каб **«на аснове ўзрастаючай мэханізацыі стварыць на землях, прадастаўленых рабоча-сялянскай дзяржавай у карыстаньне колгаснага сялянства, устойлівую і культурную гаспадарку шляхам рашучага палепшаньня апрацоўкі палёў, барацьбы з іх засьмечанасьцю, устанаўленьня севаабаротаў і ўнясеньня ўгнаеньняў».**

Выходзячы з гэтай задачы, якая

зьяўляецца цэнтральнай і асноўнай у цяперашніх умовах, урад пастанавіў замацаваць за кожным колгасам зямлю, якая знаходзіцца ў яго працоўным карыстаньні ў існуючых цяпер граніцах.

Гэта пастанова сьведчыць аб тым, што ўрад забясьпечвае ўсе ўмовы колгасьнікам для таго, каб сур'ёзна і па-сапраўднаму ўзяцца за высока-якасную апрацоўку зямлі, якая знаходзіцца ў іх карыстаньні, для таго, каб на колгасных палёх стварыць высокі ўраджай і тым самым яшчэ больш замацаваць дасягнутыя посьпехі ў соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, павялічыць харчовыя і сыравінныя рэсурсы пролетарскай дзяржавы.

Трэба ясна сабе ўявіць, што павышэньне даходнасьці колгасьнікаў і палепшаньне матэрыяльных умоў усіх працоўных краіны — залежыць ад таго, наколькі мы пасьпяхова разгорнем барцьбу за павышэньне ўраджайнасьці.

Зараз, калі мы дасягнулі дастатковых посьпехаў у расшырэньні засеўных плошаў, задача заключаецца ў тым, каб асноўныя сілы і сродкі ў сельскай гаспадарцы сконцэн-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

травацъ на якасьці колгаснай вытворчасьці, каб дагнаць і перагнаць у галіне ўраджайнасьці перадавыя капіталістычныя краіны.

Мы з посьпехам ажыцьцяўляем, пад кіраўніцтвам ленінскага ЦК УсеКП(б) на чале з правадыром партыі т. Сталіным, задачу дагнаць і перагнаць у тэхніка-экономічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны. **Мы дасягнулі грандыёзных, сусьветна-гістарычнага значэньня посьпехаў у індустрыялізацыі краіны, з посьпехам ажыцьцяўляем першую пяцігодку; аднак мы адсталі ў галіне ўраджайнасьці. Гэта адставаньне трэба ліквідаваць як мага чхутчэй.** Няма ніякага сумненьня ў тым, што і гэта задача будзе з посьпехам выканана, бо «няма такіх крэпасьцяй, якія-б бальшавікі не маглі ўзяць».

## Забясьпечыць авангардную ролю МТС і саўгасаў

Работа па павышэньні ўраджайнасьці шчыльна зьвязана з далейшым організацыйна-гаспадарчым умацаваньнем колгасаў, з умацаваньнем сталай колгаснай брыга-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

ды, як асноўнага зьвяна колгаснай вытворчасьці. Пасьпяховасьць выкананьня мерапрыемстваў па ўраджайнасьці цалкам залежыць ад таго, наколькі партыйныя арганізацыі і колгасна-зямельныя органы пасьпяхова ўмацуюць брыгаду.

Колгасная брыгада павінна стаць асноўнай першапачатковай ячэйкай барацьбітоў, за аўладаньне агротэхнікай, за павышэньне ўраджайнасьці. Вось чаму трэба імкнуцца, каб разам з усямерным умацаваньнем складу колгаснай брыгады пераносіць цэнтр цяжару работы агроспэцыялістаў непасрэдна ў брыгаду, выхоўваючы ў брыгадзе лепшых колгасьнікаў-актывістаў — барацьбітоў за высокі колгасны ўраджай.

Мы здолеем дасягнуць сапраўды рэальных посьпехаў у павышэньні ўраджайнасьці пры ўмове мобілізацыі колгаснага актыву на гэту справу.

Нам трэба дабіцца таго, каб саўгасы і МТС былі сапраўдным авангардам у барацьбе за высокі ўраджай. Асновай усіх мерапрыемстваў па павышэньні ўраджайнасьці ў

саўгасах зьяўляецца **шэсьць указаньняў т. Сталіна.** Гаспадарчы разьлік, правільная організацыя працы, ліквідацыя абязьлічкі і ўраўнілаўкі і іншыя мерапрыемствы па ўмацаваньні саўгасаў—зьяўляюцца абавязковай умовай, неабходнай для пасьпяховай барацьбы за высокі ўраджай соцыялістычных палёў.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

СНК СССР і ЦК УсеКП(б) у сваёй пастанове лічаць неабходным і даручылі Наркомзему «перабудаваць работу машына-трактарных станцый так, каб задачы барацьбы за ўраджайнасьць была падпарадкавана бягучая агро-вытворчая работа МТС, маючы на ўвазе, што машына-трактарныя станцыі павінны стаць кіраўнікамі колгасаў ня толькі ў галіне ўжываньня трактарнай тэхнікі, але і ў галіне агрономіі».

Гэта ўказаньне СНК і ЦК, якое сьведчыць аб далейшым умацаваньні ролі МТС ў справе соцыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, патрабуе выключнай увагі з боку партыйных організацый да работы МТС, дапамогі і ўмацаваньня МТС.

## Перабудзваць кіраўніцтва с.-г. вытворчасьцю

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Пасьпяховае правядзеньне мерапрыемстваў па павышэньні ўраджайнасьці патрабуе далейшай рашучай перабудовы работы **партыйных, савецкіх і зямельна-колгасных організацый у кіраўніцтве сельскагаспадарчай вытворчасьцю.**

Для таго, каб пасьпяхова ажыцьцяўляць намечаныя ў гэтай галіне мерапрыемствы, неабходна рашуча перабудаваць кіраўніцтва саўгасамі і колгасамі, ліквідаваць мэханічны, ураўнілаўскі падыход да іх, сапраўды дасканальна ведаць ўсю гаспадарку і напрамак разьвіцьця кожнага саўгаса і колгаса, ведаць работнікаў і актывістаў саўгасаў і колгасаў з боку раённых работнікаў і організацый.

Толькі конкрэтнае опэратыўнае кіраўніцтва колгасамі, штодзенная дапамога колгасам, кіраўніцтва з дасканальным веданьнем справы, з дастатковым запасам агро-тэхнічных ведаў у вясковых работнікаў можа гарантаваць сапраўды рэальныя посьпехі ў павышэньні ўрад-

жайнасьці. **Глыбокае, конкрэтнае кіраўніцтва саўгаснай і колгаснай вытворчасьцю немагчыма бяз грунтоўнага веданьня тэхнікі буйнай соцыялістычнай гаспадаркі.** Зімовы час трэба скарыстаць усяму партыйнаму, савецкаму, комсамольскаму і колгаснаму актыву на тое, каб аўладаць гэтай тэхнікай. Партыйны, савецкі і комсамольскі актывіст, прыяджаючы ў колгас, павінен даваць нарады і дапамагчы лепш організаваць колгасную брыгаду, лепш расставіць колгасьнікаў на ўсіх вучастках колгаснай вытворчасьці, правільна змагацца з абязьлічкай і ўраўнілаўкай. За ўсё гэта зараз-жа трэба рашуча і настойліва змагацца.

### Соцспаборніцтва і ўдарніцтва— асноўны мэтад барацьбы за высокі ўраджай

**Пасьпяховых вынікаў у павышэньні ўраджайнасьці мы здолеем дабіцца толькі тады, калі організуем гэту справу як масавую справу, калі організуем на барацьбу за высокі ўраджай ўсе нашы масавыя**



ДЛЯ ЗАЎВАГ

**арганізацыі, разгорнем соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, мобілізуем такую магутную зброю нашай партыі — як друк, з яе шматтысячнай арміяй рабселькораў.**

Мы маем надзвычай каштоўны вопыт мэтодаў і форм правядзеньня баявых задач партыі. Шматлікія конкурсы, зьлёты ўдарнікаў, абмен вопытам з паказам лепшых узораў работы і рад іншых форм работы, дастаткова выпрабаваных на радзе баявых вучасткаў нашай работы, трэба шырока выкарыстаць для барацьбы за павышэньне ўраджайнасьці.

Асабліва важным зьяўляецца арганізацыя шырокага паказу вопыту лепшых колгасаў і саўгасаў, дасягнуўшых добрых вынікаў у падвышэньні ўраджайнасьці. Мы, напрыклад, маем наступныя колгасы, якія дасягнулі высокай ураджайнасьці.

У 1931 годзе дасягнулі такіх паказчыкаў па ільну-валакну: колгас «Прогрэс» Лёзьненскага раёну — 4,1 цэнтнера, колгас «Новы шлях» Шклоўскага раёну — 3,1 цнт.; па бульбе: саўгас «Прылукі»—150 цнт.,

саўгас «Петроліна» — 133,5 цнт., колгас «За ўраджай» Асіпавіцкага раёну — 178 цнт., колгас «Сноп» таго-ж раёну—157 цнт., колгас «Комунар» Чырвона-Слабодзкага раёну — 117,3 цнт.; па жыту: саўгас «Блонь» — 16,8 цнт., саўгас «Бацэвічы» — 13 цнт., колгас «Прогрэс» Лёзьнянскага раёну — 13,2 цнт., колгас «Зара» таго-ж раёну — 11,8 цнт.

**Якім** шляхам дасягнулі такіх паказчыкаў гэтыя саўгасы і колгасы, **як** яны змагаліся за высокі ўраджай—усё гэта трэба шырока популярызаваць сярод усіх саўгасаў і колгасаў.

Трэба сабе ясна ўявіць, што пры ажыцьцяўленьні мерапрыемстваў па павышэньні ўраджайнасьці мы няўнікнёна будзем мець шалёнае супраціўленьне клясава-варожых элемэнтаў.

Асобныя слаі адсталых колгасьнікаў, якія знаходзяцца пад кулацкім уплывам будуць супраціўляцца правядзеньню мерапрыемстваў па павышэньні ўраджайнасьці.

Усё гэта патрабуе настойлівай штодзённай работы, мобілізацыі

мас для адпору клясава-варожай дзейнасьці, настойлівага растлумачэньня адсталым колгасьнікам усёй сутнасьці і неабходнасьці барацьбы за высокі ўраджай.

Разгортваючы работу па павышэньні ўраджайнасьці, мы таксама будзем сустракацца з праяўленьнямі опортуністычнай недаацэнкі агротэхнікі сярод аднаасобных работнікаў і комуністаў, з нежаданьнем сапраўды па бальшавіцку організаваць справу. З усімі гэтымі зьявішчамі неабходна весьці самую рашучую і бязьлітасную барацьбу, мобілізуючы масы на барацьбу за высокі ўраджай на колгасных і саўгасных палёх.

## Забясьпечыць пасьпяховае правядзеньне дэкады ураджаю і колектывізацыі

Выключнае значэньне для мобілізацыі мас на пасьпяховае выкананьне задач павышэньня ўраджайнасьці — мае правадзімая з 25-га кастрычніка па 5-е лістапада дэкада ўраджаю і колектывізацыі.

Дэкада павінна стаць выходным пунктам разгортваньня сапраўды

бальшавіцкай барацьбы за высокі ўраджай колгасных і саўгасных палёў. Вось чаму правядзеньню дэкады партыйныя організацыі павінны ўдзяліць выключную ўвагу.

Дэкаду неабходна правесьці так, каб, мобілізуючы ўвагу на пытаньнях павышэньня ўраджайнасьці, ўсямерна скарыстаць яе для значнага ўзмацненьня тэмпаў гаспадарча-політычных кампаній — дабіцца рашаючых зрухаў у выкананьні пляна хлебазагатовак і астатніх відаў загатовак, узьняць тэмпы і якасьць асеньняй сяўбы і зяблевага ворыва і інш. кампаній, якія будуць вырашаць посьпех барацьбы за павышэньне ўраджайнасьці.

Неабходна ў часе дэкады разгарнуць асабліва глыбокую **масава-політычную работу** па растлумачэньні колгасьнікам, рабочым МТС і саўгасаў пастановы СНК СССР і ЦК УсеКП(б) аб мерапрыемствах па павышэньню ўраджайнасьці, дабіваючыся актывізацыі мас на выкананьне гэтай пастановы.

Дэкада ўраджаю і колектывізацыі павінна значна падштурхнуць справу аўладаньня вясковай пар-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

тыйнай організацыяй, колгасьнікамі, рабочымі МТС і саўгасаў агротэхнічнымі ведамі. Зімовы час зьяўляецца найбольш спрыяючым для разгортваньня вялікай работы ў гэтым напрамку. Гэты час патрэбна максымальна скарыстаць, дабіўшыся рашаючых посьпехаў па ўкараненьні агротэхнікі.

У часе дэкады неабходна шырока практыкаваць організацыю міжколгасных і раённых **выставак.** Гэтыя выстаўкі зьяўляюцца аднэй з лепшых форм показу нашых дасягненьняў у галіне соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.

Вялікую ролю могуць адыграць выстаўкі для абмену вопытам лепшай работы па павышэньні ўраджайнасьці паміж колгасамі і саўгасамі. Трэба пры організацыі выставак на абмен вопытам зьвярнуць сур'ёзную ўвагу.

У часе дэкады неабходна прэміяваць лепшых ударнікаў-колгасьнікаў і рабочых паасобныя брыгады і брыгадзіраў, якія паказваюць узоры сапраўды соцыялістычных адносін да працы і актыўна змагаюцца

ДЛЯ ЗАЎВАГ

за высокі ўраджай саўгасаў і колгасаў.

Па дырэктыве ЦК КП(б)Б у часе дэкады трэба правесьці **справаздачы колгасаў перад сялянамі аднаасобнікамі** аб папярэдніх выніках сельскагаспадарчага году, аб дасягнутых посьпехах у арганізацыйнагаспадарчым умацаваньні колгасаў. Гэтыя даклады трэба арганізаваць так, каб у жывой, конкрэтнай і зразумелай форме, на конкрэтных прыкладах паказаць селяніну аднаасобніку перавагі колектыўнай гаспадаркі над аднаасобнай гаспадаркай.

Неабходна такія сходы праводзіць з дастатковай папярэдняй падрыхтоўкай: падрыхтаваць даклад і паасобныя выступленьні колгасьнікаў, зрабіць дыяграмы і шырока паведаміць аднаасобнікам аб сходзе.

Шырока популярызуючы посьпехі колгасаў, дасягнутыя на аснове барацьбы за іх арганізацыйнагаспадарчае ўмацаваньне, мы павінны разгортваць далейшы прыліў беднякоў і серадНякоў аднаасобнікаў у колгасы.



ДЛЯ ЗАЎВАГ

Галоўнае, што вырашае посьпех у барацьбе за ўраджайнасьць — мобілізацыя на гэтую справу шырокіх працоўных мас. Дэкада ўраджаю і колектывізацыі павінна забясьпечыць у гэтай справе рашаючы пералом.

ДЛЯ ЗАЎВА

